1. Калі і дзе адбываецца дзеянне ў апавяданні? Як час і падзеі ўплываюць на адносіны паміж героямі твора?

2. Хто з герояў апавядання найбольш спадабаўся вам? Чым?

3. Ці ёсць сярод герояў апавядання такія, каго можна назваць адмоўным персанажам? Напрыклад, салдат Сідараў. Звярніце ўвагу на тое, як характарызуе гэтага героя аўтар. Ці злыя тыя насмешлівыя выказванні ў яго адрас іншых герояў? Як называецца такі не злы, дабрадушны смех?

4. Якія пачуцці выклікае ў вас канцоўка апавядання? Як вы думаеце, чаму не прыйшоў старшы лейтэнант пачаставацца печанай бульбай?

5. Як вы вызначылі б жанр гэтага твора: апавяданне, навела? Абгрунтуйце сваё вызначэнне.

## *Міхась Стральцоў*

# АДЗІН ЛАПАЦЬ, АДЗІН ЧУНЬ

### 1

...Раптам казытліва стала спіне: над стрэшкай пограба імглістá ўсхапіўся снежны ўзвей, калюча зацерусіў у вочы; потым разам аціхла — чуваць было, як з шаргаценнем спаўзаў па сцяне і ападаў долу вецер. Снежны пыл на вейках і на шчоках раставаў, і рабілася цёпла.

На раскапаным ля пограба сумёце таксама была стрэшка, сутонліва-белая і лёгкая, як аблачынка ці птушынае пяро, і мройлівая ў сваёй прыцемненай белі. Пазёмка сцішана шоргала па сумёце, празрыста-дымна распаўзаючыся за агародам у полі.

Ён увабраў галаву ў плечы, не зважаючы, што непрыемна-холадна дакранаўся да шчакі зледзянелы матузок ад аблавушкі, і — глядзеў...

Птушкі ляцелі на разлатую Піліпчыкаву лясоўку, пад вецер, і таму зніжаліся над пуняй, але не селі — зноў ляцелі ў поле, робячы круг: вераб'і пырхнулі ту-

гой чародкай, пад імі, ніжэй, ішла сініца, і цяжка, нібы бамбавоз, імкнула следам, ціўкаючы і адстаючы, здурнелая аўсянка.

Ён тады пашкадаваў, што ў яго парвалася рагатка. Дастаў яе праз дзіравую кішэню з-за падкладкі світы і разглядваў, торгаў за канцы парваную стволку, парваную другі ўжо раз: той, першы раз ён надтачыў адзін яе канец не надта пругкім, затое тоўстым паскам, у брыжыках, бо выразаны пасак быў з процівагаза якраз паўз круглае шкельца. Надтачыў, пераціяўшы канцы тонкай меднай драцінкай, а не суровай ніткай, як трэба было зрабіць, і вось драцінка, урэзаўшыся ў гуму, пераела яе. Але навошта цяпер шкадаваць пра гэта: усё адно ў яго ніякіх "боепрыпасаў" для рагаткі няма. Летам назбіраеш колькі хочаш каменьчыкаў, а цяпер хіба што цэглы наб'еш, ды толькі лёгкая яна, пусціш з рагаткі — ажно фурчыць.

У яго азалелі рукі, і ён пачаў хукаць на іх, не хаваючы ў кішэню рагатку, — гума пахла востра, набрынялая пякучым холадам, і зусім па-іншаму, прыглушана-сіратлівым нейкім водарам патыхала ад скуранай, пацёртай латкі — "мяшэчка", у якім заціскаў, страляючы, пальцамі каменьчык, а тронак самой рагулькі, выгладжаны даланёй, быў, здавалася, і зусім цёплы, казытаў нос тонкім, нават трохі саладкаватым, такім зразумелым, добрым пахам, што чамусьці ад гэтага балюча сціскалася сэрца.

Над вёскай, у полі была імглістая, зажураная смуга, быў прыхаваны смутак, няўлоўны нейкі і незразумелы, як настрой то сціпанага — і тады светлага, — то шумліва-порсткага, роспачна-вясёлага, нават аж зіхоткага ўвачччу і ўсё адно цёмнага ветру. Гэта нельга было выказаць словамі: ён, стоячы пад пограбам, бачыў сябе жаўтлява-светлай саломінкай, вытыркнутай са страхі, — яна трымцела, грала, смуткавала і гарэзіла разам з ветрам; вецер шкуматаў яе, але ўсё адно любіў, і яна любіла яго. І баялася, і не баялася ягонай моцы.

Птушкі зноў ляцелі на Пілічыкаву лясоўку, зноў, зніжаючыся, рабілі круг: вераб'і лапатліва пырхнулі на дрэва ледзь не ад самай зямлі, толькі аўсянка адстала, цяжка паляцела пад страху Пілічыкавай пуні. Сініцы з імі ўжо не было.

Ён схаваў у кішэню рагатку, адчуў, што ў яго расслаілася пад шапкай, ссунулася на патыліцу хустка: тужэй завязаў яе пад барадой, глыбей насунуў на галаву шапку. Рукі ён схаваў у рукавы світы: ужо ходаўнавата стаяў на дварь і яму рабілася холадна. Холадна, можа, было яму яшчэ і таму, што з яго нядаўна здзекаваліся, дражніліся з ім на гульбішчы ў Аўдулінай хаце старэйшыя хлопцы, а больш за ўсіх Аўдулін Паўлік. І Іванка плакаў.

Яму яшчэ і цяпер было гаркава і суха ў горле, і калі ён на ўсе грудзі дыхаў, нешта аж хрыпела там і ўсярэдзіне рабілася непрыемна-салодка, нудліва. Адчуваў ён таксама, што нечым цяжкім, мулкім набрынялі ў яго павекі, што пад вачамі ўвесь час была нейкая не такая, як на ўсім твары, нейкая застылая сцюдзёнасць, і яшчэ адчуваў ён, што ў яго напялася на шчоках, як бы патанчэла скура і прыпухлі вусны.

І яго пачыналі ўжо біць дрыжыкі.

## 2

Ягоным горам, ягонай пакутай і слязьмі быў крывароты Аўдулін Паўлік, ці, па вясковай мянушцы, Цяўлік, якому капсулем ад гранаты парвала летась шчаку, якога баяліся не толькі малыя, але і аднагодкі-хлопцы, бо Цяўлік надта любіў разяўляцца на ўсіх, пастыляўся нават з дарослымі, лез на кожнага, як жаба на корч. Быў ён нізкарослы, з высокай грудзінай і нейкі аж зялёны ў твары, якраз бы ягоная маці, і гэтак жа, не выпускаючы з рота, смактаў цыгарку, як яна, і гэтак жа кашляў. Маці ягоную ў вёсцы інакш

не называлі, як салдатам, бо і хадзіла, і гаварыла яна па-мужчынску, і па-мужчынску ўпраўлялася [redacted] касой і сякерай: узяла і паставіла сама, пасля таго як спалілі немцы, новую хату.

Цяўлік яшчэ да вайны хадзіў у чацвёрты клас і зноў пайшоў у чацвёрты, калі пазалетасць адкрылася школа. У пяты яго летась не перавялі, пакінулі на другі год — і, можа, таму гэты Цяўлік быў цяпер заўсёды такі злосны, і, можа, таму не рос. Дзе ты ўжо вырасцеш там, калі злосці поўныя косці. Гэта дзед так аднойчы пра яго сказаў.

І навошта было сёння ісці да гэтага Цяўліка? Ён бы і не пайшоў, можа, каб хоць які занятак прымеў сабе на вуліцы, каб хоць хто [redacted] таварышаў паказаўся на вочы яму, а то сядзелі, мусіць, сабе ціха па хатах ды грэліся на печы. Ды і што ім было рабіць на той вуліцы: за мінулую ноч столькі ўсюды панасыпала снегу, што і кроку ў бок ад дарогі нельга ступіць, не тое што праехаць, начапіўшы канёк на нагу, з канца ў канец усю вёску. Хлопцам добра, ім можна і на печы пасядзець, яны і так на вуліцы кожны дзень, а яму гэтая печ апрыкрала ўжо горш за ўсё: сядзі ды сядзі, бо стапталіся лапці, а новых няма. Каб была ў дзеда пянька, даўно б яму чуні ўжо сплёў. Ён і плесці быў пачаў, ды аборак толькі на адзін чунь хапіла. Дзед сказаў пацярпець, бо прыдумае што-небудзь, не можа быць, каб нельга было што-небудзь прыдумаць. Дзед нават засмяяўся і весела так сказаў: "Адзін лапаць, другі — чунь, хоць ты дома не начуй" — і нават нагой прытупнуў, нібы ў скокі пусціцца хацеў, але потым адразу пачаў нечага сварыцца на маці і спахмурнеў. А нядаўна прыходзіў бацькаў дзед (ён жыве на другім канцы вёскі), даведаўся, што ў Іванкі аднаго чуня няма, і ўсё божкаў ды божкаў, стоячы ў парозе. А матчын дзед, і бабуля, і сама маці ўпрошвалі яго хоць трохі пасядзець ля стала на лаве, але ён адгаворваўся: не было яму часу, казаў, — гэта ён

заўсёды так, заўсёды яму часу няма. Яму толькі ў Ганны, дачкі сваёй, ёсць час сядзець. І Трахіміха яго адтуль не вылазіць, усё па загараддзю, па сценцы прыцемкамі ходзіць туды, усё нешта ў кашолцы носіць. Маці кажа, што яны да вайны ў гэтага дзеда жылі, а як пайшоў бацька на вайну, перабраліся да дзеда Міхалкі. І ён, Іванка, ужо тады нібыта быў, калі ў таго дзеда жылі, толькі нічога во не помніць. Маці кажа, што яны ніколі ўжо не пойдуць да дзеда Трахіма жыць, бо забілі на вайне бацьку, — каму яны трэба цяпер там. Трахімісе і тады, пры бацьку, не ўладзіць было, а цяпер яна ім і зусім чужая. Яна і дзеда Трахіма падбівае супраць іх. Як пенсію далі за бацьку, дык пасылала дзеда судзіцца, каб палавіну пенсіі сабе забраў. Дзед і паслухаўся б, можа, каб Ганна іхняя не заступілася за маці. Трахіма баіцца цёткі Ганны.

Дзед Трахім усё стаяў на парозе, божкаў. Угакаў усё. "Столькі снегу навеліла — уга! Гэта ж Вялікдзень будзе позні, да самай Радаўніцы снег будзе ляжаць. У Ганны вунь гурбу ўровень з хатай намяло — уга! — пяклуецца, бедная, рады не можа даць. А ў хаце халадзіна, хоць ты ваўкоў ганяй... Выпшыкаецца з печы дух за дзень, а нанач паленне сырое на под пакідае — дык дзе ж ты бачыў, каб падсохла, нават не правяне нізвання... А ў вас во цёпла, бачу, — уга! Сват во, чаму ж не, аблету назапасіў з восені... Яно ж каб і ў самога сіла была... Халера на яе, якая ўжо тут сіла... Каб жа маладзейшы быў — уга!"

А дзед Міхалка на тое казаў, што і ў яго ўжо сілы няма. Скажа і змоўкне. А дзед Трахім усё гаворыць. Дзед Міхалка проста так на нядужасць жаліўся, каб не маўчаць. Не любіць дзед жаліцца, не тое што дзед Трахім, якому заўсёды здаецца, што ва ўсіх усё лепш, чым у яго. Маці кажа, што ён знарок нагаворвае так на сябе, благога вока ды чужой зайздрасці баіцца. Дзед, кажа маці, лепей як хто ў вёсцы жыве.

Калі адыходзіў, дзед паклікаў яго, Іванку, да сябе. "Дык ідзі ж сюды, ідзі, суччын кот. Чаго ты баішся? Ты ж вунь увелькі з дзеда вырас – уга!" І гладзіў Іванку па галаве. А потым пачаў шкадаваць, што гасцінца не ўзяў. "Гэта ж так яно выйшла, што выпадкам зайшоў. Гэта ж не збіраўся зусім. Ганна прасіла, каб прыйшоў авечку паглядзець: не есць авечка ні ў знак, зарэзаць давядзецца, а-ёй! Цяпер авечак адно гора дзяржаць. Каб не аўчынка, дык ці яе дзяржаў бы – уга! Сышла на нецькі авечка ўся. Нудзіцца, Божачка мой, як чалавек. І ўсё мэкае, а есці – не есць. Каб жа знацcomponents, дык бы з восені прыгнёў. А цяпер што з яе? Ну, аўчынка, аўчынка будзе, як тэй казаў, а больш што – уга!"

Дзед, мусіць, ужо забыўся пра той свой гасцінец. "Дык ты нас, кот, з бабай адведай калі. Надумайся і прыбяжы". Але ён, Іванка, не такі дурны, каб абяцаць. Быццам дзед не ведае, што ў яго няма чаго на ногі абуць, быццам не гаварылі пры ім пра гэты самы чунь. І таму ён маўчаў, нішкам адхінаючы ад дзедавай рукі галаву, і тут пачала ўжо гаварыць маці. "Дык далёка ж, тата, да вас, – сказала яна, – ды і ён во цэлымі днямі ў хаце сядзіць. Няхай сядзіць, няма чаго тарнавацца на вуліцы. Стаптаў во ўсё – няхай і сядзіць. Яму хоць вечнае дай, усё пратрэ ды падзярэ, на ім яно – як гарыць. Вазьму во яшчэ ды і закіну куды гэты чуны!" Гэта яна знарок так гаварыла, Іванка ведаў, – не хацела, каб яго хто шкадаваў. "Ну навошта ты так на дзіцёнка, – пачаў бараніць Іванку дзед. – Ці не ёсць гэта ў мяне – дай Бог памяць, каб не салгаць, – ці не закінулася дзе ў мяне трохі пяньковага вярхоўя? Трэба будзе пашукаць. Я канапель, халера на іх, той год мала сеяў, з імі ж важдацца – не дай Бог. Старая мяне і за тэя, што пасеяў, закляла, затукала – уга! Ты ўжо мне, сват Міхалка, мерку дай з чуня зняць, а я пагляджу..."

Так вось і падмеўся дзед Трахім сплесці гэты самы другі чунь. Чакай цяпер, калі прынясе.

Ён, Іванка, чакаў-чакаў, ды і чакаць перастаў. Успомніў, што бачыў летам на гарышчы нейкія старыя бацькавы чаравікі, паўсыханыя і пакарабачаныя, аж не разагнуць, з вышмараванымі пабялелымі перадамі, разяўленымі, як шчупакова пашча. Летам тыя чаравікі не трэба былі, а цяпер во добра, што ўспомніў пра іх: дастаў з гарышча, абгарнуў нанач мокрай анучай — яны і памякчэлі, аджылі. Адно нядобра — пачалі адвальвацца ў іх падэшвы. Але ён і на гэта ратунак скора знайшоў: дзе драцінкай падшыў, дзе вяровачкай падвязаў — выбраўся сёння на вуліцу. І заўтра пойдзе, і паслязаўтра: дзед той чунь свой, калі хоча, можа не несці — абыдзецца і так як-небудзь. І маці не будзе асабліва глядзець, парваў ты гэтыя чаравікі ці не парваў, — не яна ж справіла, сам прыдбаў.

І ўсё было сёння так добра ў яго, пакуль гад гэты, Цяўлік, на ім сілу сваю ды злосць паказваць не пачаў, не пачаў насміхацца з яго ды здзекавацца. Гад гэты крываroты! Ён думае, што калі ў карты ўмее гуляць, дык ужо і вялікая цаца. А ён, Іванка, у карты не хоча гуляць, бо дзед сказаў, што дзецям гуляць у карты няможна, і дарослым, сказаў, ад картаў ніякай карысці няма. А дзеда ён слухае, бо дзед самы разумны ў вёсцы: ён яшчэ пры панах, казала маці, як малады быў, дзяцей па хатах вучыў, і яму за гэта муку і бульбу давалі. Дык хіба за тое, што ён, Іванка, у карты гуляць не хоча, яго трэба біць? Ды яшчэ страшыць, што як дзед памрэ, дык і зусім яго, Іванку, са свету зжыве: надта разумнымі хочуць яны быць з дзедам. Страшыў, што дакажа на дзеда за тое, што ён у вайну школьную дошку, на якой крэйдаю пішуць, дамоў узяў, каб вучыць Іванку грамаце. І чаго яму грамата гэта спакою не дае? Злуецца, што ён, Іванка, хоць у школу яшчэ толькі налета пойдзе, а ўмее ўжо чытаць, і пісаць, і рашае ўжо задачы. Цяўлік крычыць, што ён граматных гэтых, вучоных гэтых, каб яго права было, на край бы свету сагнаў: ведае, якія яны, — такія,

як іхні былы настаўнік, што ў паліцаях служыў. Расстралялі, гада печанага, партызаны, ён і сам яго, каб далі, з паганай вінтоўкі забіў бы. А што яго не пераводзяць у пяты клас, дык такой бяды, – ён і сам, можа, не хоча: знайшлі дурня ў тым класе нямецкую мову вучыць. Няхай яму лепш язык адсохне, калі ён будзе вучыць яе, гергетаць, як фрыцы паганыя тыя. Яны бацьку забілі і хату спалілі, а ён будзе па-іхняму гергетаць! Кіне вясною школу і ў калгас конюхам пойдзе рабіць.

Хо, знайшоў чым страшыць! Няхай ідзе ў гэтыя свае конюхі, можа там галаву сабе скруціць хутчэй. Ён, Іванка, па ім плакаць не будзе. Было б чаго!

3

Птушак на Піліпчыкавай лясоўцы ўжо не было: ён не бачыў, куды яны паляцелі і калі. У полі, то набіраючы моцы, то ападаючы, лапатаў і шастаў вецер, неба было сівое, ні хмар на ім, ні прагалін – адна суцэльная, скупа прасветленая смуга. За полем азначаўся шэрай вузкай палоскаю лес – ён быў у нізіне... Калі вецер спадаў, здавалася, што там, у лесе, рабілася ціха і аж да вусцішнасці глуха. Там, здавалася, было нейкае сваё, непадуладнае ветру жыццё.

І сама па сабе была, гібеючы на холадзе, цягнучыся ўгору кашчавымі доўгімі сукамі, высокая, усохлая на адзін ствол Піліпчыкава лясоўка. Нейкая панурая зацятасць адзіноты выдавала ў ёй, нейкае цярплівае і звыклае трыванне перад усім – перад ветрам, перад небам, якое было святлейшым і вышэйшым там, дзе свіціліся вымкнутыя ўгору і застылыя ў тугой нерухомасці голыя шаты, і нават ветру нes ставала сілы растрывожыць пануры іх спакой, і ён зласліва шумеў і шоргаўся ўнізе, у трывожлівай цёмнай купе вішань і сліў.

Вецер, вецер, вецер... Было холадна. Але ў хату ўсё адно не хацелася ісці. Ён баяўся патрапіць на вочы дзеду: той бы адразу здагадаўся, што ён пакрыўджаны нечым, здагадаўся б, што плакаў, і пачаў бы распытваць, і ён, Іванка, мусіў бы прызнацца ва ўсім, але яму не хацелася гэтага, не хацелася жаліцца дзеду, хоць і не здолеў бы растлумачыць чаму. Можа, нават таму, што ён ужо неяк падсвядома адчуваў: дзед спатрэбіцца яму яшчэ некалі, у больш важных выпадках, і пакідаў гэтую магчымасць на пасля, думаў пра дзеда, як пра самае надзейнае сваё апірышча і як пра абаронцу.

Маці ён таксама бачыць не хацеў. Можна было б паціху прашмыгнуць на печ і стаіцца там, думаючы сваё. Але ён ведаў: гэта і будзе самае падазронае для яе, яна адразу здагадаецца, што нешта з ім не так, што недзе ён ці не правініўся ў чым, і пачне наперад, агулам, наракаць на яго і грозіцца не пускаць больш з хаты, а потым ужо неяк незаўважна пачне шкадаваць сябе і клясці сваю долю. І гэта будзе горш за ўсё.

І ён баяўся гэтага.

Ён падумаў, што лепш за ўсё яму пакуль схавацца ў пограбе.

Як гэта ён не падумаў адразу! Так сцішна, цёпла было тут, у цемені, — колькі ні ўзірайся, колькі ні напружвай зрок, усё адно нічога не ўбачыш. Але ён ведае і так, дзе тут высыпае кожнай раніцы маці на жалязку вуголле: там і прысесці на кукішні можна і рукі над вуголлем пагрэць. І ён ступіў асцярожна да асцяны, прыгнуўшыся, выставіўшы наперад рукі, і адчуў тварам, рукамі, як на яго шчыкотна-ласкава павеяў цёплы дух, як востра запахла попелам і адначасна халаднавата-сырой зямлёй, пракуранымі сухімі сценамі. Ён прывыкаў да ўсяго гэтага, асцярожна ладкуючыся ля жалязкі з вуголлем, якое яшчэ недзе тлела, мусіць, бо інакш адкуль бы ішоў гэты рэдкаваты струменісты дух. Было глуха і цёмна,

але пахі былі ўзнагародай за ўсё. Пахла бульба ў засеку, капуста ў бочцы, пахлі буракі, сваім пахам і яшчэ нейкім другім — падсохлай на іх зямлёй. І яму здавалася нават, што ён чуе, як пахне пад столлю павуцінне.

Яму адсюль мроіліся пахі, і спачатку было прыемна распазнаваць іх, было прыемна ад няўтольнай, прагнай, аж да пранізлівасці, яснаты ў галаве, ад ненатужнай лёгкасці ва ўсім целе. Але неўпрыкмет гэта перайшло ў нейкую другую, нудлівую і ўладную прагу — хацелася есці.

Цяпер яму пахла ўжо чутней за ўсё паранай бульбай, той, што засталася ад раніцы і стаяла ў печы за засланкай у чыгунку, — падсохлая бульба, з падсмяглай аж да чырвані скуркай, такая духмяная, калі расцісвуць яе, і цёплая. Пахла яму і каржом, таксама падсохлым, у жаўтлявых іскрынках прасяных шароек зверху і з прыліплым спадыспаду попелам, — ах, які гэта смак, калі адламаць сабе адно з тых "акенцаў", на якія дзеляць корж перад тым як саджаюць яго на лапаце ў печ!

Ён запусціў руку ў падраную кішэню світы і шчопцем грэбаў там за падкладкай, спадзеючыся хоць штокольвек знайсці на падман голаду: хоць крошку каржа ці хлеба, хоць пшанічнае ці жытняе зярнятка. І хлебную крошку ён знайшоў, сухую і гаркавую, як паспытаў на зуб, і аж дзве пшанічыны на астачу: расмакаваўся і захацелася больш. Сама была пара прыдумаць нешта яшчэ, і на памяць паслухмяна ўсплыло гарашча з гронкамі мерзлай рабіны, падвешанай да шастка, у падсуседдзе да венікаў, з матчынымі журавінамі, насыпанымі на стары задубелы жакецік, і як успомніў пра гэта, не схацелася ўжо сядзець у пограбе. З асцярогаю прачыніў дзверы: ці не бачыць хто? — і скоранька выкаціўся на двор, а потым ужо знарок паволі, нібы забаўляючыся, ляскаў доўгім ключом у дзірцы, пракручанай у вушаку, — замыкаў дзверы на засаўку. Аставалася самае страшнае, нікім не

ўбачаным, зайсці ў сенцы і па драбіне ціха, каб не нарабіць грукату, залезці на вышкі.

Усё абышлося добра, здаецца, і гэты раз. Цяпер ужо такой турботы: дапаўзці да шастка за комінам; ён гэта зробіць так, што ніхто не ўчуе ў хаце, што ніводная пясчынка не прасыплецца праз столь.

Вось і дапоўз, вось і можна перадыхнуць — уга! Яму нават смешна стала, што нечакана падумаў, як дзед Трахім. "Во брахун, во лёгенькі Савачка: падмеўся чунь сплесці, а не нясе". Так сказала пра дзеда маці. І гэта таксама смешна было. Іванку замроіўся, замільгаўся перад вачамі, не то дзед Трахім, не то матчын лёгенькі Савачка: захаканы, з белай бародкай, у белых споднікак, шыбуе подбегам, аж ногі зыбаюцца ў каленях, і нечага ўсё азіраецца. Можа, сабакі гоняцца за ім? "Во, халера на іх! Уга!" Сапраўды было смешна.

Ён спахапіўся на думцы, што яму пацяплела. Бач ты, адагрэўся, мусіць-такі, у пограбе, ды і тут зацішна, а ля коміна дык і цёпла зусім: добра цяпер, зімою, паляць у печы. Ён набраў сабе ў жменю журавін, адшчыкнуў рабінавую гронку: сядзеў, прыхінуўшыся плячамі да коміна, і паволі, жмурачыся, спрабаваў на зуб, качаў у роце гаркава-кіслыя сцюдзёныя ягады. Скора яму надакучыла гэта, ды і ў горле перасела і нешта ўжо балюча казытала там. Ён назнарок сціішыўся: можа, пачуе, што робіцца ў хаце. Аднастайна гуло ў коміне, торкаўся знадворку ў шчыгток вецер, а там, у хаце, было ціха, як бы павымерла ўсё, і ён быў забыўся чакаць і слухаць, як у хаце раптам бразнула клямка — зачыніліся дзверы, зарыпела прамерзлая падлога ў сенцах і нехта выйшаў на двор. Ён здагадаўся: дзед. Ну і няхай сабе, ён не баяўся дзеда. Снег рыпеў ужо на двары, было чуваць, як дзед біў нагой па мерзлай ражкцы, у якой запарвалі карове сечку з мякінай: абсыпалася ў ражку і звонка шастала наледзь, з віскам аддзіралася днішча ад зляжалага пад ёй, намерзлага снегу. Іванку не трэба было глядзець,

што рабіў дзед, яму пра ўсё расказвалі гукі. Рыпелі вароты ў пуні, дзед нешта гаварыў да каровы, вішчаў і рохкаў парсюк, зноў рыпелі вароты, потым чуваць было, як дзед пералазіў цераз агароджу за гуменца з токам — прыбудоўкі да пуні. Во зноў рыпяць вароты, во нешта стала не чуваць ужо дзеда, а потым — шах! шах! шах! — дзед гатаваў карове сечку.

Гуло і гуло ў коміне, ціха было і, здавалася, сонна ў хаце. Што там робіць цяпер матка? Бабуля, мусіць, спіць на печы, спіць і не ведае, што ён тут, на вышках, што цяпло ад печы грэе і яго. На Іванку находзіла млявасць, цяжэлі павекі. Ён сядзеў, падкурчыўшы пад сябе ногі, глыбока схаваўшы рукі ў рукавы світкі. Ногі добра грэліся пад ім, і ён адчуў, што левая нага як бы пабольшала, стала як бы не свая. Мусіць, замлела. Але Іванку не хацелася нават павярушыцца. Сон находзіў на яго.

У сне быў зімовы дзень, зыркае сонца і белая вуліца, уся ў раскапаных гурбах, і ён, Іванка, бег гэтай вуліцай, і ногі так лёгка неслі яго, можа, таму, што на іх былі новыя, падшытыя гумай чуні. Дзед Міхалка яшчэ нічога не ведае пра чуні: паехаў з раніцы ў лес па дровы, і цяпер Іванка бяжыць, каб сустрэць яго... Вось ужо канчаецца вёска, вось і поле. А вунь, на дарозе, і конік матляе галавой, а ўзбоч коніка ідзе дзед. "Дзед, дзедка! — закрычаў Іванка. — Я табе скажу нештачка!" Але што гэта? Толькі што быў навокал снег, былі гурбы высокія, а тут раптам дзед на калёсах едзе. "Дзедка, чаму так, дзедка? — хоча запытацца Іванка. — Чаму ты на калёсах?" Але дзед далёка яшчэ, не пачуе. Азірнуўся на вёску і ўбачыў: грае, пераліваецца ў небе сонца, пара дымнымі слупамі стаіць над стрэхамі хат, а ўнізе, над зямлёю, снуецца імглiста-зыркі туман, і ў тым тумане молада, чыста, аж у адказ шчыруе, абміраючы ў шчымлівай знямозе, душа, крычаць і перагукваюцца пеўні. І так хораша ад усяго гэтага Іванку і чамусьці балюча. Глянуў ён пад ногі сабе: на

дарозе снегу нізвання, нібы абстругany кімсьці, ляжыць ссівелы пясок, усцяж пазначаны, куды ні глянь, пакручастым шнуроўем ад пазганяных у адно месца, няйначай як ручаямі, трэсачак, чорных карэньчыкаў, шэрых сцяблін. “Калі гэта было, — думае Іванка, — чаму я не бачыў?” Дзе-нідзе на дарозе выгнала ўжо кволае пер’е трава, расла астраўкамі-кучомкамі, а як глянуць наўзбоч, бралася трава між дарогай і полем роўнай зялёнаю шчоткай, ільснілася, глушыла, забівала маладую жаўтлявасць, што свяцілася знізу, ад зямлі. Шкада раптам стала нечага Іванку, і зноў ён глянуў пад ногі сабе. Чуні! Навошта яму цяпер чуні, што ён будзе з імі рабіць? Ён жа так чакаў іх, так хацеў пахваліцца імі дзеду! Крыўда сціснула Іванкава сэрца, і ён заплакаў. Паглушэла тады наўкол, і стала страшна. Вусцішнасць запанавала наўкол, схавалася некуды сонца. Шах! Шах! Шах! — пачулася адусюль, нібы нехта вялікі ішоў па саломе ці сене. Іванка сцяўся і заплюшчыў вочы. А той вялікі ўсё ішоў і ішоў. Іванка чуў яго і чакаў, як чуюць і чакаюць вецер, калі ягоным дыханнем, ягоным прадчуваннем пачынае жыць наваколле. Вось той, вялікі, быў ужо за спіной, вось ён паволі, нібы знарок паволі, распасціраў рукі, прыпыніўшыся на хвіліну і стаіўшы дыханне... Іванка закрычаў. І зноў тады стала ціха. Іванка расплюшчыў вочы. Дробненькі-дробненькі дожджычак сеяўся над полем, стаяла чуйная, прывідная ў сваёй спішанасці імгла. Час нібы на момант спыніўся і цяпер паволі, як бы нехаця, зноў пачынаў свой бег. Пахла сырою зямлёю, самотна гудзеў недзе жук. Проста на Іванку з пакрытай нечым, падобным да фартуха, галавою ішоў чалавек. Быў ён зусім не страшны і не вялікі, увелькі, як дзед. Ішоў ён сумны і ціхі, і Іванку стала шкада яго. Ужо зусім без страху чакаў Іванка, калі чалавек падыдзе да яго. Ён і падышоў, стаў, і, як бы ў роздуме, з нейкай абыякавай марудлівасцю зняў з галавы фартух, і рукі яго бяссільна павіслі ўздоўж

цела, і фартух вышаў з іх. "Не трэба, — сказаў чалавек неяк незадаволена і ў той жа час спакойна, — не падымай", — нібы быў упэўнены, што Іванка абавязкова кінецца падымаць той фартух.

У чалавека на галаве была кубанка, такая, як у аднаго партызана, што ў часе вайны неяк пад раніцу пастукаўся ў дзедаву хату, папрасіў малака, а як адыходзіў, пакінуў лістоўкі і тоўсценькую, але не шырокую, можа, з далонь, кніжачку. І дзед, і маці пасля чыталі яе, называлася тая кніжачка "Солнцеворот". Іванка добра гэта запомніў.

Чалавек і шапку, як фартух, з галавы зняў: настабурыліся доўгія, аж у дзве рэдзі, валасы, бо зачасаны былі ўгору, а потым яшчэ загнуты ад патыліцы наперад. Ну якраз як у таго ўпаўнаважанага з раёна, што летась кватараваў колькі дзён у іхняй хаце. Вясёлы быў чалавек, чорны, белазубы, у вайсковай форме, капітан, і прозвішча ў яго было смешнае — Маламуж. Украінец, казаў дзед. Прынёс аднойчы белай мукі і прасіў маці, каб зварыла яму лапшы, і маці зварыла. Доўгавалосы ўвішна сёрбаў, задзіраючы галаву ўгору, сваю лапшу і ўсё смяяўся: "Лапша — вочы ў столь!"

Хто ж ён такі, гэты цяперашні чалавек?

"Ты пазнаеш мяне? — спытаў чалавек у Іванкі, трымаючы шапку ў руцэ і трохі павярнуўшы ўбок галаву, як бы прыслухоўваўся да нечага. "Дзядзечка, я не ведаю вас", — ледзь не заплакаў Іванка. "Не трэба мне гаварыць — дзядзечка, — сказаў чалавек. — Я — гэта ты, Іванка. Толькі я дарослы, а ты малы. Багаты я, мусіць буду, калі ты не пазнаў мяне". Дзіўна ўсё гэта было чуць Іванку, і ён не ведаў, што адказаць. "Во, глядзі, — сказаў чалавек, — пазнаеш? — і выцягнуў з кішэні самаробны наган, той, што нядаўна адабраў у Іванкі дзед. — Бачыш, твой наган, праўда? Толькі што ж гэта ты так няўдала зрабіў яго? Ствол з дзядоўніку. Ды яшчэ аўтаматны патрон загнаў. Стрэліш — разня-

се... Напомні мне заўтра, я табе з жалезнай трубкі ствол зраблю...” — “Ты будзеш і заўтра?” — спытаў Іванка. “Я буду цяпер заўсёды з табой”. — “А чаму раней не сказаў мне, дзе наган дзед хаваў?” — “Дык мяне ж не было тут, — як бы здзівіўся чалавек. — Я на вайне быў, я ваяваў. Ваську забілі, дык я помсціў за яго. Я многа фрыцаў пабіў. Потым мяне як шандарахнула ў левую нагу! Яшчэ і цяпер баліць. Ну, скажы, праўда баліць?” Дзіўна, чаму ён так пытае ў Іванкі. Але і праўда: прыслухаўся Іванка — левая нага і яму баліць. Што за праява? І толькі цяпер заўважыў Іванка, што правая нага ў дзіўнага гэтага чалавека абута ў бацінак, а левая босая, тоўстая ў ступні, як набрынялая ўся. “Гэта я бацінак скінуў, каб ямчэй ісці, — сказаў чалавек. — Мне далёка было ісці. Я ў шпіталі ляжаў. [redacted] зарок сабе яшчэ перад тым даў: калі жывы астануся, дамоў пехатой пайду... Скажы мне, — страпянуўся ён раптам, — у каго б я мог урэзак здабыць?” — І пранікліва глянуў на Іванку, утаропіўся позіркам і маўчаў, і нейкі сум быў у ягоных вачах і як бы шкадаванне, што Іванка, можа, не ведае, у каго і дзе той урэзак. “Дык жа, дык жа ў Валодзькі цётчынага, — ледзь варочае языком Іванка, — урэзак быў... Цётка казала, што закінула яго некуды, ды ты ёй не вер. Закапала дзе-небудзь, каб не знайшлі. Валодзька ў хаце [redacted] цэлага патрона стрэліў, цётку напужаў. Я ведаю, я ў іх быў. Аж шыбіна дзынкнула, мне вушы залажыла, яй-бо. А цётка як збялее ўся ды як закрычыць. Кінулася да Валодзькі, думала, што і нежывы ўжо. А ён, як дурны, стаіць, урэзак з рук не выпускае...” — “Ну добра, хопіць, — рашуча сказаў чалавек, — вядзі мяне да Валодзькі”. — “Дык што ж гэта? Дык што... цяпер? — нібы збаяўся нечага Іванка. — А ты сабе... ты сабе лепш вінтоўку знайдзі. Вінтоўка... лепш, я ведаю. Вінтоўка...” — “Ты баішся? Баішся? — Чалавек узяў яго за руку. — Дык адразу скажы. Мне не трэба вінтоўка, мне трэба паганае ружжо, урэзак.

Я пайду Цяўліка забіваць. Ты паможаш мне? Ты толькі не бойся, хадзем. Я там, ля лесу, ужо і яму выкапаў. Чуеш, як пахне зямля?" Ён павярнуўся і стаў тварам да лесу і нечага нават рукі падняў, як бы запрашаючы слухаць. І тады Іванка пачуў... Верашчаў, крычаў, екатаў, прасіўся недзе Цяўлік. "Ой, мамачка!" – крычаў. Вецер аднекуль нахапіўся і далёка разносіў той плач. "Не хачу! Не хачу! – закрычаў тады Іванка. – Не чапайце яго, не трэба яго чапаць! Ён дурны яшчэ, нічога не разумее. Яго ў пяты клас не перавялі, і таму ён злы". Чалавек тады раптам павярнуўся да Іванкі і зарагатаў. Яшчэ большы ўзняўся вецер, холадам і страхам праціnaў Іванку, аж сэрца як не выскоквала з грудзей. А Цяўлік усё плакаў недзе, і вецер насіў па полі, шкуматаў яго плач...

Іванка прачнуўся.

Ён не адразу ўцяміў, што тое страшнае, што адбылося з ім, быў усяго толькі сон. Цела ягонае ныла.

Было сцюдзёна ў спіну і ў шыю. Калі ён паспрабаваў павярнуць галаву, нешта аж хруснула ў патыліцы, і потым стала горача ўваччу. Левая нага пад ім здранцвела, было страшна нават падумаць, каб устаць.

На вышках увачавідкі пашарэла. Вецер гуў у коміне, не сціхаў. Іванка прыслухаўся. З гуменца ўсё яшчэ чулася: шах! шах! шах! Колькі ж ён спаў?

## 4

– Дзед, – сказаў Іванка, – ну аддай мне наган. Ты чуеш, дзедка, га?

У гуменца з двара заляталі сняжынкі. Было тут зацішна, але холадна: сцюдзёнасцю тхала ад настылага току, скразнякі гулялі пад страхой. Але дзед такі добра ўпарыўся. Выцертая аблавушка з завязанымі наверсе матузамі з'ехала яму на патыліцу: у дзеда ўзмакрэла і аж пабялела лысіна. Ля дзеда расла, абступаючы

яго з усіх бакоў, ладнаватая ўжо куча сечкі. Дзед стаяў на каленях, пад ім паслана была на ток салома.

— Дзед, — сказаў Іванка. — Ну, дзедка... Чаму ты маўчыш?

— Глядзі-тка, узмакрэў я саўсім, — сказаў дзед, глыбока ўздыхнуўшы і апусціўшы рукі. Глядзеў нечага наўкол сябе, хакаў усё ды пакрэктваў: — Спярша, слухай сюды, як стаў на калені, ток, што той бубен, быў, аж гудзеў. Як ад жалязякі якой халернай, ад яго стынню нясло. А цяпер во, нібы ў лазні пабыў... Узяў бы ты ды дзеду памог...

Несур'ёзна, канечне, кажа ўсё гэта дзед. Во і сам усміхаецца на тое. Дзед хітруе, проста не хоча яму, Іванку, нічога пра наган казаць.

— Ва ўсіх дык і тое, і тое ёсць. Толькі ў мяне нічога няма. Адна рагатка, можа, — ды і тая парвалася. Ну, хочаш, дзед, паглядзі... У цябе, дзед, нават дратвы няма, каб звязаць парваную стволку.

— Ну, гэта ты ўжо шэльму строіш, унучак. Ой, шэльму! У бабы суровую нітку папрасі. Хіба не дасць? А што дратва? Вунь смалы вазьмі, нітку насмыч — будзе табе дратва... Ай, шэльма ты, шэльма, — і дзед ківаў галавой, усміхаўся.

— А чуні ў мяне ёсць? Скажы, дзед, ёсць? Ну, скажы!

— Будуць табе і чуні, ты толькі пачакай. Пацярпі. Бог, унучак, цярпеў і нам цярпець вялеў. Вось паглядзіш: убачу я дзеда Трахіма і спытаю ў яго... Ну, можа, не спытаю зразу, а так скажу: "Добрага здароўечка табе, сват. Як жывеш? Унучак наш перадае табе паклон". А дзед Трахім спытае: "А як ён там, унучак мой?" — "Грэх пра яго, сват, што-небудзь кепскае сказаць. І бабу, і дзеда слухае, і матку ўважае. Да цябе з бабай у госцейкі збіраецца. Во які наш унучак!" — "Ай-яй! — скажа дзед. — Гэта ж і праўда такі харошы хлапечык — ага! Не так жа сабе я чунь яму падмеўся сплесці! Ага! Ты так і перадай яму, сват,

што не хлушу, спляту!" Во як, Іванка, будзе, усё добра будзе, паглядзіш.

— Ты выдумляеш, дзед. Усё ў цябе добра ды добра... добра ды добра ўсё.

— Слухай ты сюды, якую я табе ціка-а-вую гісторыю раскажу. Прадзед твой, Ігнат, бацька мой, нябожчык, любіў яе часта расказваць. Жыў-быў, слухай сюды, адзін чалавек, не то дзіваком лічыўся, не то святым. Слова хоць каму благога не скажа, не накрычыць, не папракне. Дрэнна чалавек зробіць, ён у душы пашкадуе, галавой паківае, скажа толькі: ой-я-яй! Бы на дзіця неразумнае паглядзіць. І чалавеку таму тады совісна. Вось як было. А ў жыцці, унучак, усяляк бывае. Бывае, што з такога чалавека смяяцца стануць: які ж ты, такі-сякі, добры, калі нястрашны? Аж не. Такі ўжо быў той чалавек дабрэнны, што не смяяўся, не знушчаўся з яго ніхто. І былі ў яго, значыцца, тры сыны. Харошых дзяцей яму Бог даў. Але ж дужа дзівіліся яны: чаму такі бацька? Што яны ні зробяць, усё яму добра. Благое не заменціць, а на добрае пакажа ды і пахваліць яшчэ. Вось і надумалі сыны: што б ім такое зрабіць, каб бацька раззлаваўся, каб на іх сярдзіты стаў. Не ад злосці, слухай сюды, надумалі яны так. Надта ўжо ім цікава было праверыць свайго бацьку. А дзела на сенакосе было. Пасцягалі яны сена ў копы, да вечара яшчэ часу шмат засталося: што рабіць? Старэйшы і кажа: "Давайце капу падпалім, паглядзім, што наш бацька будзе рабіць". Падпалілі, сталі і як бы грэюцца. Тут і бацька падышоў. І што б ты думаў, ён зрабіў? Стаў да іх, рукі грэе, а сам прыгаворвае: "На сонцы цёпла, цёпла, а пры капе яшчэ цяплей!" — і засмяяўся дзед, лагодненька так засмяяўся, як бы сам сабе. Як бы забыўся, што пры ім сядзеў Іванка. Барада ў дзеда рыжая, ну, не зусім рыжая, а так сабе. І мяккая. Гэта ведае Іванка. Надта калычыцца дзедава барада, як ён хлебныя крошкі з яе выбірае. Дзед во і цяпер, як смяяўся, нечага хапаўся

за бараду. Губы ў яго сталі белыя, і ён ціхенька калаціўся ўвесь. Адвярнуўся во нечага, сцішыўся нечага дзед. "А можа, ён плача?" – падумаў Іванка. Шапку вунь зняў, выцірае рукавом лысіну. Галава ў дзеда зусім голая, а шыя ўся пасечана баразёнкамі.

– І ветру, бач, няма, а залезла нешта ў вочы. Тут глядзі ды глядзі, – нібы апраўдваўся дзед.

Ён павярнуўся да Іванкі, плюскаў вачамі, павекі ў яго былі чырвоныя, а вочы аж белыя – памутнелі ў дзеда вочы. І жаль працяў Іванкава сэрца, падумаў ён, што нядужы ўжо дзед.

– Дзедка, хопіць табе ўжо. Бач, колькі нарэзаў! А то дай я табе памагу.

– Трапляецца, кажаш, і рачку маломў злавіць рыбку скарэй, як старому, – павесялеўшы, зірнуў на Іванку дзед. – А не, унучак. Стары, што малы. І малы, што стары. Дос мне ўжо. Нарэзаў аж у запас. Добра, што саломка хоць ёсць. Выведзем на вясну кароўку. Пераб'ёмся неяк. А вунь як калгаснай скацінцы да вясны дацярпець?.. Калгасная не калгасная – чым яна вінавата, усё адно шкада. Яшчэ на Каляды ездзілі па дварах, сена ў гаспадароў прасілі. Хто даваў, а хто б і даў, ды ў самога няма. Вось як! Звядзецца ўся скацінка, будуць ваўкі косці гладаць... Кароўнік раскрылі, салому скармілі. Салома тая – званне адно. На ёй зялёны мох парос, у руках рассыпаецца – гніль. Карова зялёныя лапкі лепей, чым тую салому, есць. Свіціцца ў кароўніку ўся страха. Ляжа карова – бакі прымярзаюць.

– Дзед, а няхай бы ўзялі кароў у двары, няхай бы перазімавалі...

– Э, унучак, каб жа ўзялі, дык каб жа далі. Узяць – возьмеш, а карміць чым будзеш? А другі разважае так: вазьму, а што мне з гэтага будзе? Малака не дасць: запусцілася, якое ўжо там малако. Сена страўлю, а хто яго мне верне?.. Працадні запішуць? А што мне будзе на тыя працадні? Сена? Ды сена і ў калгасе няма.

ды і начальства не дазволіць, каб кароў ці коней разабралі. Пабаіцца, каб людзі не падумалі, што калгасы будуць распускаць. Калі людзей не пабаіцца, дык таго начальства, што над ім, што вышэй.

— Дзед, а старшыня, — таксама начальства?

— Начальства, унучак. Нам з табой заўсёды начальства.

Іванка як бы ўзрадаваўся нечаму і засмяяўся.

— Дзед, — сказаў ён, — дык і ты [redacted] начальствам, каб захацеў, мог быць. Памятаеш, як цябе старшынёй хацелі паставіць, як цябе на сход выклікалі і ты не хацеў ісці, а пайшоў?..

— Не магу я, унучак, начальствам быць. Гады не тыя, ды і які з мяне начальнік... Я сам сабе начальнік благі. А над людзьмі дык і зусім няма ў мяне хацення стаяць. Не магу я пастыляцца з людзьмі.

— Маці казала, што ты добры, што на табе людзі, як захочуць, так і паедуць, вінаватым зробяць, і ты будзеш вінаваты.

— І праўда, унучак. Хто [redacted] нас не вінаваты перад Богам і перад людзьмі?

— Чаго ты, дзед, усё кажаш: Бог ды Бог. Не хачу я, каб ты казаў пра Бога. І маці таксама не любіць, калі ты ўспамінаеш яго.

— Ну, добра, унучак. Не буду, унучак, Бог з табой.

— Во, зноў, дзед. Усё ты — Бог...

Дзед нічога не адказаў, адно зірнуў на Іванку. Дзіўна неяк, здалося Іванку, зірнуў. Бездапаможна, разгублена, а потым чамусьці вочы заплюшчыў: павекі ў дзеда дрыжалі, як быццам балюча дзеду было, як быццам перасільваў ён, стаіўшы дыханне, гэты боль.

— Дзед, — сказаў Іванка, — гэта я так пра Бога...

"Чаму я так шкадую яго? — думаў дзед. — У мяне ўсё нутро аж сыходзіць болем. Ці трэба так, ці памагу я так маломy? Што чакае яго? Божа, ці трэба мне так яго шкадаваць?"

Вечарэла ўжо, сутоньвалася на двары. Хмурнела ў гуменцы, вецер хадзіў пад страхою цішэй і цямней. І пацяплела быццам. Дзед, стоячы на каленях, грэбаў рукамі каля сябе, зграбаў да кучы рассунутую па таку сечку.

– Іванка, вазьмі, унучак, у кашы мех. Насып да палавіны мякінай. Рэзкай потым дасыплем, у сенцы занясём. Каб пад рукамі было, каб не хадзіць.

– От даўно б так, дзед. Цяпер я табе памагу.

Насыпалі мех, абцiснулі яго рукамі і каленямі.

– Зараз мы яго – гуп! – сказаў дзед, – і панясём.

– Дзед, – сказаў Іванка, – аддай мне наган. Во, ісцінны Бог, я страляць [redacted] яго не буду. Мне трубачкі шкада. Не той, што з дзядоўніку, а той, жалезнай, дзе ходзіць баёк... Аддай, дзед.

– Не ведаю я, Іванка, што з табой і рабіць...

– А ты не рабіць, ты дай...

– Хто яго ведае, куды яго дзеў? Ты думаеш, мне ў галаве...

– Не мані, дзед. Я ведаю: ты схаваў.

– А што, калі нам вунь там, дзе снапы зложаны, ля сцяны паглядзець?

– Ой, чаму я не здагадаўся! Дзед!..

Паглядзеў, пашукаў Іванка рукамі: ёсць!

“Ох, малое, што дурное. Але ж і я дурны...”

– Дай-ка сюды, я патрон выму. Дай мне гэтую рагазу.

Што ён умее, гэты дзед? Туды-сюды рукой торкаецца, не, сасмаргнуў-такі гумку з байка. Ну, правільна, трубку жалезную цяпер трэба на сябе падаць, нічога, што яна перацята другой гумкай. Гумку не трэба чапаць, трубка і так пойдзе.

Дзіўнае нешта рабілася з дзедам, і не разумеў сябе дзед. Стараўся зірнуць на ўсё староннім вокам і не мог. Адчуваў, што не так нешта, не трэба было яму гэты наган Іванку даваць, але ж во душы паслабку даў, разжальбіўся, бач ты. І хацеў, і не мог зірнуць на

сябе староннім вокам дзед, і пакутліва было яму ад гэтага.

— Ай, рабі ўжо сам, — зусім разгубіўся ён.

Іванка выняў зубамі патрон, абцёр яго далонню.

— На, бяры, калі шкада табе, дзед.

"Ох, стары, што малы. Што галава, то й розум".

І што ты тут зробіш: узяў патрон дзед.

5

"Божа, не пакінь мяне без помачы, — думаў дзед. — Нешта здарылася са мной. У мяне падбілася душа. У мяне не стала душы — засталося адно шкадаванне. Мне ўсіх шкада, жальба сціскае мне сэрца, і мне хочацца плакаць. Так, мусіць, нельга. Адкуль у мяне гэта? Ці, можа, я нядобра жыў? Ці гэта ты завеш так да сябе, і, можа, гэта знак мне твой? Скажы. Не, не думай, я не баюся смерці. Скажы мне толькі — я ведаць хачу, а прашу цябе: скажы мне, колькі трэба мець чалавеку дабраты ў сэрцы? Я доўга жыў, я стараўся шанаваць закон твой. Але скажы мне, якая табой паложана мера дабру? [redacted] доўга жыў, я бачыў, як дабро спараджала зло і як зло спараджала дабро. Ці трэба так, Божа? Чаму ты не зробіш так, каб адно дабро спараджала дабро? Грэшнікаў ты не адлучаеш ад сябе, але дзе ты шануеш дабрачыннасць больш: на зямлі ці на небе? Я доўга жыў, і я не ведаю, як жыць. Даруй мне, Божа...

Я нічога не прашу ў цябе. Судзі, як хочаш, мяне, я ўсё прыму. Прашу цябе за ўнука. Ён сірата, ты ведаеш, і не зрабі так, каб ён быў сіратою і між людзей. У яго добрая душа, ты ведаеш гэта. Пашлі выпрабаванні яму па сіле. Не зрабі так, каб надламалася яго душа пад цяжарам дабра, але не зрабі і так, каб душа яго стала зласлівай. Палажы яму тую меру, якую не палажыў ты мне.

Я баюся дабра, але я не вінаваты ў гэтым. Не за сябе я баюся, за ўнука.

Супакой сэрца дачцэ маёй: яна шмат за вайну перажыла, стала зласлівым яе сэрца. Пашлі добрага чалавека ёй, пашлі ўнуку майму бацьку. Дай яшчэ пажыць маёй старой — не будзе табе шкоды ад гэтага, Божа...

Амінь!"

## 6

Мяцеліца аціхала. Вецер слабеў: яшчэ ўскідваўся час ад часу, паволі, як бы нехаця набіраючы сілу, але потым раптоўна ападаў, супакойна веючы на дарогу снежным пылам. Смутлівай беллю свіціліся на вуліцы вярхі гурбаў. Нягледзячы на скон дня, на двары ўвачавідкі святлела. Смуга над полем празрысцела, танчэла, — зменлівая і неазначальная для вока смуга.

На захадзе, высока ў небе, не могучы прабіцца праз шчыльную роўнядзь хмар, часамі ўсё яшчэ млела трывожлівае ў сваёй залацістасці панурае святло. Але чарната ўжо глушэла і залягала над лесам.

Супакойная і ціхамірная стаяла цяпер Пілiпчыкава лясоўка.

Ішоў вечар.

Абабіўшы ў сенцах ад снегу ногі, зайшоў тым часам у хату да дзеда Міхалкі дзед Трахім.

Вось як убачыў гэта Іванка.

У хаце весела гарэў на камінку агонь, кідаючы мітусліва-гарачае святло на сцены, на руды стол з драўлянаю сальніцаю, на светлую і, здавалася адсюль, ад камінка, цёплую лаву, на мокрыя ад хаты шыбіны акна, то цёмна-глыбокі, калі на іх падаў цень, то чырвона-імглістыя, калі ў іх адбіваліся языкі полымя. Вада была разліта на падлозе, і ў ёй таксама скакаў агонь. Дзынкала маці вядром, налiваючы ваду ў чыгун, дзе

празрыста бялела зверху толькі што начышчаная бульба. Зноў дзынкала дужка аб вядро – мокра і ядрана, маці ставіла вядро на ўслон: чуваць было, як на дне вядра пачынала пялёхаць вада. Ціха было ў хаце. Дзед ляжаў на ложку ў бакоўцы, зрэдку суха і коратка кашляў, бабуля спала на печы. Адзін Іванка сядзеў ля камінка, блізка падставіўшы твар сухому, гарачаму цяплу. Яму добра-такі пякло ў шчокі, аж неяк туманна рабілася ў вачах: ён адхінаў тады галаву, і было прыемна адчуваць, як доўга яшчэ гарачыня казытала, калола твар, як роўна разлівалася па шчоках, – паветра лёгкім токам аблягала твар, і ад гэтага неяк прыемна яснілася ў галаве – было добра.

Калі ляснула клямка ў сенцах, калі нехта пачаў дзугаць перад дзвярамі нагамі, абтрасаючы з іх снег, Іванку нават і ў галаву не прыйшло, што гэта мог быць дзед Трахім.

Перш чым убачыць дзеда, Іванка ўбачыў, як у дзверы прасунулася кашолка, і ён не пазнаў бы адразу яе, звычайную кашолку, такую, як і ў іх, каб не была завязана яна зверху добра знаёмай махрыстай цёмнай хусткай: так заўжды хадзілі да цёткі Ганны і сама Трахіміха і дзед Трахім.

Дзед, нічога яшчэ не кажучы, затупаў у парозе, зачыняючы пасля сябе дзверы, потым павярнуўся і неяк выпрастаўся адразу, пацішэў. Вельмі сур'ёзны з твару, нават урачысты стаў дзед. Правёў па барадзе рукой: ён, бачыў Іванка, хацеў глядзець прама, але вочы ягоныя бегалі – дзеду, можа, нязвычна было пасля вуліцы глядзець на святло.

– Ну, дык добры вечар у хату вам, – аддыхваючыся, сказаў дзед. Маці разагнулася пасярод хаты, мокрай рукой папраўіла валасы, потым апусціла рукі і неяк збянтэжана, палахліва глядзела на дзеда.

– Як у вас цёпла тут – уга! – жвава, мусіць, каб апярэдзіць маці, выгукнуў дзед. – Вечар добры табе,

Праскута, — сказаў ён цішэй і зняў з галавы шапку. — А дзе ж гэта сват Міхалка?

Дзед Трахім паставіў у парозе кашолку.

— Дык што ж гэта я... Праходзьце сюды во, да стала, — не вельмі каб увішным голасам сказала маці і зноў падняла да твару руку, паправіла валасы. — Тата! — гукнула потым моцна, на ўсю хату. — Уставай ужо, паглядзі, хто прыйшоў...

— А ты тут грэешся — уга! Ну, добры вечар табе, суччын кот, — нібы толькі цяпер убачыў Іванку, пamкнуўся да камінка дзед Трахім. Уціснуў у сваю шурпатую руку Іванкаву вялую далонь, а другою, таксама шурпатай і цвёрдай, пагладзіў на галаве ў Іванкі стрыжакі. — Уга, вялікі вырас, суччын кот. Дай во пагрэцца і дзеду.

Маці ўзяла ад стала ўслон, паставіла перад камінком, схадзіла ў парог па анучу і колькі разоў шмарганула ёй па ўслончыку.

— Хо! Такой бяды, уга! — сказаў дзед. — Ды не клапаціся ты ўжо, Праскутка, — лагодна і задаволена казаў ён, нібы не заўважаючы ўтупленага позірку Іванкавай маці. "Злуецца маці, — думаў Іванка. — Бацькаву пенсію не можа дзеду даравац ь".

Дзед Трахім адсунуў трохі ад камінка ўслончык, паазіраўся і сеў. Шапку паклаў сабе на калені.

Цікава, прынёс ён Іванку чунь ці не?

У бакоўцы закрактаў ложак: уставаў дзед Міхалка. Уздыхнула на печы, але не азвалася бабуля. У хаце стала ціха. Маці зноў пачала брынчэць вёдрамі. З бакоўкі выйшаў дзед Міхалка, круціў галавой, жмурачыся на святло.

— Авой! Здароў быў, сват. Прылёг я пад вечар троху. Пагода такая, што толькі і ляжаць...

Дзед Трахім устаў з услона: яны здароўкаліся. Было як бы не па сабе дзеду Міхалку: ён плюскаў вачамі, касавурыўся, глядзеў нечага сабе то на плячо, то на грудзі. "Засмуціўся, мусіць, што дзед Трахім яго на ложку застаў", — і тут здагадаўся Іванка.

— Ага, ты праўду, сват, кажаш, — загаварыў, адразу нечага ўзрадаваўшыся, дзед Трахім. — Круціла, халера, цэлы дзень, але цяпер во ці не ўляжацца за ноч. Аціхае як быццам. Будзе мароз... Сядай во, сват, да мяне.

— Сядзі, сядзі, а я на калодку сяду. Мне так звычней... А ты чаму гэта не распранаешся, сват? Іванка! Памажы распрануцца дзеду... Распраніся, сват, у хаце цёпла.

— Цёпла дык цёпла, уга! Ды я не забаўлюся... Гэта ж у Ганны быў. Дамоў бегчы трэба. Старая не ўправіцца без мяне. Затукае, закляне, як запазнюся... Гэта ўжо т-а-ак...

— Распраніся, сват, распраніся, — казаў дзед Міхалка. — Пасядзі... Столькі бачымся...

— Хе-хе-хе! Дык гэта ўжо так! — зноў павесялеў і аж падскочыў на ўслончыку, заўсміхаўся дзед Трахім. Пагладзіў абедзвюма рукамі шчокі, пагладзіў бараду. Выпнуўся неяк увесь, задраў галаву. Твар у дзеда гладкі, чырвоны, галава з кароткімі сівымі валасамі сядзіць стырчком. Зубы ў дзеда белыя, частыя, як часнок. А смяецца коратка і дробненька так.

— Ну дык памажы тады ўжо, Іванка, памажы, — кажа дзед Трахім. — Памажы, суччын кот, — і ўстае, распранае суконную світу, аддае Іванку разам з шапкай. Пад світай у дзеда суконная кашуля, суконнікі-штаны, на нагах — валёнкі.

“Багаты гэты дзед, — думае Іванка, несучы світку і шапку, каб палажыць на куфар. — Дзіва што такі чырвоны ды крэпкі”, — і шкада яму робіцца дзеда Міхалку. Няма ў таго світы — носіць дзед ватоўку. Кашуля ў дзеда палатняная, падчорненая ў выварцы з талакнянніку. Штаны-ватнікі залаплены на каленях. Абувае дзед старыя, аж чорныя ўжо, чуні.

Іванка кладзе на куфар світку і шапку, ідзе да дзеда Міхалкі і туліцца галавой да яго. Дзед Міхалка ўгнуўся на нізкай калодцы каля дзвярэй сваёй бакоўкі,

пазірае на печ, дзе спіць бабуля. Дзеду Трахіму бабулі не відно: ён сядзіць на ўслоне з другога боку камінка, ля саменькага агню. Круціць галавой, жмурыць вочы ды выцягвае шыю — грэецца.

"Ці прынёс ён мне чунь?" — карціць ведаць Іванку.

— Іду гэта я, — пачынае расказваць дзед Трахім, — бачу, з лазні Івана Мядзвёдкава дым ідзе. Няўжо субота сёння, думаю, няўжо я так затлуміўся, што не ведаю, які дзень? Іваніха нешта скоранька ад лазні бяжыць, клопатна так, спяшаецца. "Чаго б гэта, — думаю, — яна?" Гляджу, Іван з лазні выбег: "Варка! Варка!" — крычыць. Спынілася тая ды трушком назад. Сталі каля лазні, як бы ў змове якой, Іван нешта скоранька гаворыць ёй, рукамі паказвае...

— Няйначай, з сельсавета нехта прыехаў, а гэтыя ўжо зацягнулі да сябе. У лазні паляць... Во падхалоднікі ўжо, во супараты людскія... Во каб ім... — загаварыла раптам, усё больш і больш злуючыся, маці. — І як гэта зямля такіх на сабе носіць?

— Дык гэта ты праўду кажаш, уга! — узрадаваўся дзед Трахім.

— Заганяў ён бабу сваю, гэты Іван. Трэба ж, каб жанчына так мужыка баялася... — як бы сам сабе разважыў дзед Міхалка.

— Во шкарад! Во хітрун! Як гэта ніхто не дакажа на яго? Людзі ваявалі, а ён адседжваўся, крыкун гэты, тарбахват... Служыў і нашым і вашым. І тады яму было добра, і цяпер. Ён — і стараста, ён і партызанам парсючкоў рэзаў... Тых, што ў людзей нарабаваў. Валёнкі ды вязёнкі немцам збіраў. Не так немцам, як сабе. Агледзела я аднойчы. У Грышчыхі, маці ягонай, свае вязёнкі на руках убачыла. Што ж я, не пазнаю сваё? "Як вам, цётка, цёпла ў маіх вязёнках?" — кажу. Заплюскала вачамі, галавой заныкала: "Што ты кажаш, таечка, мае вязёнкі гэта, мае". І ходу ад мяне. У-у, зладзюгі! І добра ім, яны чыстыя, іх не зачапі. Чаму гэта мужчыны нашы маўчаць? Хаця якія гэта

мужчыны! — грэбліва скрывілася маці. — Ацалелі ад вайны і рады. Да спадніц прыбіліся. Хто ў брыгадзіры точыцца, хто ў леспрамгас. "Мы ваявалі, мы заслужоныя, нам выгоды давай!" А мы тут не ваявалі? Мы тут мёд елі, піва пілі? Ты, Мядзвёдак пракляты, ты мёд еў, ты людскія слёзы піў, — каб ты ўдовінай слязой папярхнуўся!

Маці прыклала руку да вачэй, заплакала.

— Мама! Мама! Не плач! — закрычаў, спалохаўшыся, Іванка.

— Усяго ў вайну было, — не то асуджаючы маці, не то спачуваючы ёй, сказаў дзед Міхалка.

— Ой, і кепскі ён чалавек, гэты Іван, уга, — ужо не радуючыся, а ўздыхаючы, загаварыў дзед Трахім. — Летась луг дзялілі — ён у камісію ўбіўся. Дзялілі па дварах, па парадку, каб крыўдна не было. Дзялілі, дзялілі — даходзіць да яго чарга. Якраз ля Ананнявай лазні, ля рэчкі, да выгана бліжэй, яму паласа прыпадае. Ну, канечне, там лубяк. Кароў на пашу гоняць — абавязкова каторая ўскочыць. З пашы гоняць — зноў не без таго. Тут ужо як ні пільнуй. Закруціўся Іван, як вуж. "Мне, — кажа, — з пляменнікам маім, з Васілём, у адным месцы дайце. А тут няхай другому каму. Мне пляменніку ўсё адно касіць трэба памагаць. Касу накляпаць ці асадзіць, ды і перавезці сена трэба памагчы. Які ж ён яшчэ гаспадар?" Бач, як загаварыў! А за ім, па чарзе, ішоў Аўдулін Цяўлік. Дзіця ж горкае, як і Васіль той, таксама. Такі ж гаспадар. Але ж і зацяты ён. Малы, малы, але хлопец порсткі. Упёрся, хоць кол на галаве чашы. Во ўжо малайчына хлапечык! Тут і Аўдуля аднекуль прыбегла. Як закрычыць, як загалосіць. Мужчыны каторыя пачалі на Івана наракаць. Адступіўся...

— Во так бы раз, другі, дык і наўчылі б, — сказала ўжо нават неяк абыякава маці. Яна зноў ужо важдалася ў парозе з чыгункамі ды вёдрамі, плёхала вадой, потым пачала выціраць анучай падлогу. Узяла на рукі

вялікі чыгун з бульбай, асцярожна несла яго да камінка, адстаўляючы ад грудзей. Абышла дзеда Трахіма (той убачыў, занепакоіўся, адсунуўся разам з услончыкам), прымерылася і гупнула чыгун на трыногу. Падгарнула да чыгуна галавешак.

— Падкінь яшчэ паленцаў, Іванка, няхай гарыць, — сказаў дзед Міхалка. І да дзеда Трахіма: — Я ж тады на лузе разам з мужчынамі быў, калі туды Цяўліка гэтага немцы прывезлі. Дзівам ды божай помаччу ўратаваўся я...

— Дзед, а я бачыў, як немцы іхнюю хату палілі, — гукнуў Іванка да дзеда Міхалкі.

— Лепш бы не бачыць гэтага, суччын кот, — сказаў дзед Трахім. — А ўсё праз розум дзіцячы малы, усё праз дурасць. І як яго пацягнула тую вінтоўку нямецкую браць! Хлапечыка гэтага, Аўдулінага. І тыя ж немцы неяк забыліся. Выцягнулі грузавік з гразі і паехалі. А вінтоўку пакінулі ляжаць... Потым вярнуліся ж, бач. А таго Цяўліка, — Божачка, што галава то й разум, — як бы азяліў хто: вінтоўку на печ зацягнуў, укрыў посцілкаю. І як яны, немцы, дакапаліся, хто і ў каго... Расказвалі, гергечуць, едуць. І машына ўжо легкавая з імі, і афіцэр...

— Яшчэ добра, што толькі адну Петрачкову хату спалілі, — сказала маці. — Асцерагаліся яны яшчэ тады паліць, на пачатку вайны. Цімохава хата з Петрачковай амаль упрытык. Дык немцы на Цімохавай страсе пасталі, паліваюць яе нечым, не пускаюць на яе агонь... А як Петрачыха бедная, Аўдуля, кідалася, галасіла. Бабы абступілі яе, трымаюць пад рукі... А як Цяўліка гэтага пасадзілі ў машыну ды сказалі, што на луг павязуць, каб паказаў, дзе бацька ды ўсе нашы мужчыны, зайшлося сэрца ў мяне. Немцы ўсё гергечуць: парцізан ды парцізан. Ну, думаю, будзе і нам бяда: там жа на лузе тата...

— Нічагусенькі ж мы не ведалі тады, — лаўчэй пачаў усаджвацца на калодцы дзед Міхалка. "Можа,

трохі разгаворыцца дзед, — падумаў Іванка. — А то ўсё нечага маўчыць сёння ды маўчыць". — Якраз абед быў. Мужчыны ля будак паселі. Я ўправіўся неяк раней і пайшоў да азерца міскі мыць. Колькі там часу прайшло, не ведаю, толькі чую: машына фурчыць. Мужчыны нашы, чую, загаманілі, а потым пацішэла ў іх там. Пахаваліся, думаю. Ды дзе там пахаваліся! Разгубіліся яны... А я, калі ўжо машына да табара пад'ехала і немцы пачалі гергетаць, калі крык там узняўся, — шуснуў я ў ваду, пад лазовы куст забіўся, рукою за сук трымаюся, каб не захлынуцца, гляджу...

— Гэта ж усіх і ўзялі іх там, — заключыў дзед Трахім. — А я ж перад тым з лугу паехаў.

— Даніла Талялюй з Цімохам Кундылам ураталіся, — сказаў дзед Міхалка. — У Дубкі на той час па брэдзень пайшлі, пабоўтацца ў канаве хацелі.

Пачала закіпаць на трынозе бульба, гонячы шумавінне цераз край і залiваючы агонь. Іванка адкаціў ад чыгунка галавешкі — яны сіпелі, тхнулі на хату дымам і горкай парай. Падышла з лыжкай маці, сабрала з бульбы шумавінне. Пакаштавала вар з лыжкі — ці даволі паклала солі, патупала да стала.

— Заседзеўся я ў вас, уга! — занепакоіўся дзед Трахім. — Трэба, мусіць, і мне ўжо на вячэру.

"Так і не прынёс чунь, — з жалем, з гнятлівай роспаччу ў сэрцы падумаў Іванка. — Чаго было прыходзіць тады?"

— Не, не, сват, пачакай, — устаў з калодкі дзед Міхалка. — Павячэраем з намі. Так не адпушчу. Павінен ты яшчэ маёй кіслушкі пакаштаваць. Выціснуў нядаўна трохі я. Да Маланніных шасцін.

— Дык гэта ўжо шэсць тыдняў будзе, як памерла?

— У наступны будзе чацвер.

— Царствія ёй нябеснае, — перахрысціўся дзед Трахім. — Во, забыў я саўсім. Іванка, суччын кот, паглядзі, што я табе прынёс. Каб ты не думаў, што

дзед твой узвей-вецер: падмецца — падмеўся, а не зрабіў...

Дзед павярнуўся і пайшоў да парога, дзе стаяла кашолка.

– Чунь! Чунь! Дзед прынёс чунь! – закрычаў Іванка, пазіраючы шчаслівымі, пакруглелымі вачамі то на дзеда Міхалку, то на маці.

– А Божачка, мусіць, і праўда, – не то спалохалася, не то здзівілася маці.

Дзед Трахім, прысеўшы ў парозе на кукішкі, развязваў кашолку.

7

Ад высыпанай на ручнік бульбы густа і высока, аж пад столь, ішла пара. Тут жа, на ручніку, жаўтлявым мяккім каптурком ляжалі і тоўчаныя каноплі: мачаць бульбу. У шызую алюмініевую не надта выробленую міску наліта была сыракваша. Яшчэ такая ж міска стаяла з агуркамі. Дзед Міхалка, стоячы перад сталом, абчышчаў цыбуліну. На камінку сквірчэла патэльня: трохі пакарабачаных, сасмяглых скварак, трохі затаўкі.

На акне ў рудым ад колішняй самагонкі графіне стаяла свежая дзедава "кіслушка".

Бабуля заварушылася на печы, пазяхнула. Потым ля коміна зашамацела лучына – бабуля, мусіць, уставала.

– Куліна! Злазь ужо, вячэраць будзем, – гукнуў дзед Міхалка. Кінуў абчышчаць цыбуліну і прыслухаўся.

– А вячэрайце, вячэрайце ўжо... Ты ж ведаеш, як я вячэраю... Вячэрайце сабе. – І зноў на печы стала ціха.

– Свацця Куліна, дык чаго ж гэта ты? Ці гэта так табе кепска? – падаў голас дзед Трахім.

– А-а, гэта ты, сват Трахім? А я ляжу, сплю – не сплю. У галаве гудзе, бы званы б'юць. І голас як быц-

цам знаёмы, а не пазнаю. От, старасць не радасць... Як жа там сваццяʼ?

— Мадзее трохі. Мусіць, як і ты. З жыватом у яе. Можа, язва якая. Содай толькі і ратуецца. А яе во нідзе не дастаць, уга.

— Хіба што язва. А то ж яна маладзей за мяне.

— Злазь-ка, злазь, сваццяʼ. Дай на цябе хоць паглядзець.

— На запечак хіба злезу. Пасяджу. А вы вячэрайце без мяне. Нічога нешта ў рот не ідзе.

Бабуля злезла з печы і села на запечку, паставіўшы ногі на дошку-прыступку. Цёмная хустка была нізка насунута ў яе на лоб, з-пад хусткі рэзка азначаўся худы, з цяжкім надброўем твар, з кручкаватым тонкім носам і застылымі, як бы прыпухлымі, вуснамі.

— Во мая дарога: ад печы да парога.

— А нічога, — сказаў дзед Трахім. — Перажывём зіму, летам будзе лацвей. Пагрэем косці, уга!

— Тата, — сказала да дзеда Міхалкі Іванкава маці, — прасі, каб садзіліся за стол.

— Бабуля, — падышоў да запечка Іванка, — паглядзі, што ў мяне на нагах. Мне дзед Трахім чунь сплёў. І аборы аж дзве. Адну ў запас даў. Анучкі во толькі трохі карэлыя. Маці сказала, заўтра памые...

— Ну добра, ну і няхай, — скоранька сказала бабуля, і Іванку крыўдна стала ад гэткай яе безуважнасці. "Нядобрая гэта бабуля, — падумаў ён. — Спала на печы, спала, нават не чула, як дзед Трахім прыйшоў. А мо і знарок не абазвалася. А цяпер і вячэраць не хоча: упрошвай яе. Не хоча, не хоча, а ноччу ўстане і пачне шукаць сабе чаго паесці. Быццам ёй не даюць. Дзед і той за гэта на яе сварыўся... Нічога не буду ніколі паказваць ёй. Пайду лепш да дзеда Міхалкі".

— Дзед, — сказаў Іванка, — паглядзі, якія ў мяне доўгія аборы. Я вось так закручу, і яшчэ вось так. Заўтра мне мама анучы памые... А ты мне адну сваю

суконку дасі? У цябе вялікія, дык мне з адной будзе дзве. Скажы, дасі, дзед?

– Ну што з табой зробіш? Давядзецца даць...

“Божа, навошта я аддаў яму наган? – падумаў раптам ён. – Што гэта я? Што робіцца са мной? Душа ў мяне стала мяккая, як воск. Не давядзе гэта да дабра”.

– Іванка, – сказаў дзед, – заві дзеда Трахіма садзіцца за стол... – Сват, хадзем-ка, а то ўсё астыне зусім.

Пастаўшы перад сталом, яны хрысціліся: дзед Міхалка задумліва і пакорліва, слаба шэпчучы нешта, дзед Трахім скоранька і дробна, ненатуральна задраўшы галаву і няўцямна, палахліва плюскаючы вейкамі.

Потым селі за стол.

– Колькі ж гэта ёй было... нябожчыцы Маланні? – спытаў дзед Трахім.

– Ды было ёй нямнога, год, можа, пяцьдзесят пяць... Куліна, колькі Маланні было год?

– Во не падумаў бы... Уга... А выглядала ж на ўсе шэсцьдзесят.

– Жыццё халернае было, – сказала бабуля. – Ды яшчэ табаку гэтую курыла, як мужчына, – сасмягла ў яе нутро... А радзілася ж яна, калі мне было ўжо дзесяць ці дванаццаць год. Я ж ужо за табой, Міхалка, замужам была, як няшчасце тое навалілася на нас, як тата і мама грыбамі атруціліся. Перад японскай вайной гэта было...

– Ну, так яно і будзе, год ёй пяцьдзесят пяць, – сказаў дзед Міхалка.

– Не пашанцавала нябожчыцы ў гэтай жытцы, – страпянуўся дзед Трахім і заківаў галавой, і сам неяк увесь выпрастаўся за сталом, цвёрда абапершыся рукамі аб лаву.

Каторы ўжо раз за вечар здзівіла Іванку неадпаведнасць таго, што казаў дзед, усяму таму, што

выказвалі ягоны голас і ягоная пастава. І як бы сам радаваўся гэтай неадпаведнасці дзед, як бы любаваўся на свой голас, які праз увесь час быў аднолькава порсткі і жвавы.

— А нічога ад яе не бачылі, акрамя дабра, — няхай ёй будзе лёгка на тым свеце, — паспешліва і безуважна загаварыў дзед Міхалка, а Іванка здагадаўся, што гэтая безуважнасць у дзеда знарок: як бы хацеў ён абысці так, прытупіць тую порсткую жвавасць, што неўтаймавана, нядобра чулася ў голасе дзеда Трахіма. — Сорак год з намі пражыла, слова благога ад яе ніхто не чуў. А пра яе сказаць дрэннае грэх было. Нага хворая — змалку гэта ў яе, ад гэтага і ў дзеўках засталася, — а яна ўсё кульгець ды кульгець, за ўсё бярэцца, нароўні са здаровымі.

— Памерла неспадзёўкі, — сказала Іванкава маці. — Запарылі мы перад тым бялізну, яна ваду насіла ўсё. Ніхто тады нічога не западозрыў, ды і ў яе, мусіць, прадчування не было. Спаць, праўда, у той вечар раней лягла. Ноччу мама чула: уставала колькі разоў ваду піць. "Чаго ты, Малання? Баліць што?" — "У хаце нечага душна. Ты спі". Пад раніцу спахапіліся мы, ды позна...

— Давайце вячэраць, — сказаў дзед Міхалка. — Паспрабуй во кіслушкі, сват... Не ўмею я гнаць яе... Гэта таму толькі, што трэба. Сядай ты, Праскута, ужо, так і да ночы не ўправішся...

— Нябожчыца Малання парадак за сталом любіла, ой, любіла, — азвалася з прыпечка, загаварыла бабуля. — Да абеду ці вячэры нічога, бывала, у рот не возьме. Іванку ўсё прывучала, каб не круціўся без пары ля стала. Міхалку шанавала, любіла ў доме гаспадара.

— Выпі, выпі, сват. Пробу знімі.

Дзед Трахім паднёс шклянку да рота, узяў глыток, пацямкаў губамі, гледзячы ў столь.

— Харошая кіслушка, уга! Навошта ты ганіш яе? Куды лепшая, чым у мяне, як апошні раз гнаў.

— Ну тады выпівай, сват, выпівай... А ты чаго глядзіш на яе, Праскута?

Чокнуліся ўсе разам, на нейкі момант адвялі адно ад аднаго вочы.

— Ну, дык царствія нябеснае нябожчыцы, — сказаў дзед Трахім і рашуча, хораша выпіў усё да дна, перахрысціўся і выцер далонню вусы. — Ох, злая, халера! Уга!

— Бяры, сват, скварку. Ці мачай во ў тлушч агурок.

9

...Сярод ночы дзед Міхалка прачнуўся.

Ён часта прачынаўся ноччу апошні час, і абуджэнне ў яго было лёгкім, сон імгненна злятаў з павек: яму здавалася нават, што, мусіць, міжвольнае трымценне павек, казытліва набрынялых холадам ад настылай за ноч хаты, і будзіла яго. Такі лёгкі і чуйны быў яго сон. Звычайна ён ціха і доўга ляжаў, не хочучы паварушыцца ці ўстаць, і было прыемна думаць, што гэта так проста — узяць і ўстаць з ложка, бо ніякай слабасці ці млявасці ён не адчуваў: была адна ціхамірнасць і незразумелая пакорлівасць нечаму, думкі пра што гэтак жа, як і рашэнне ўставаць ці не ўставаць, ён адкладваў на пасля. Было яшчэ адчуванне пустаты ў галаве і ў сэрцы, але гэта было не вострае адчуванне, і яно не трывожыла яго. Удзень ён здагадваўся, што так краналася яго сваім крылом празрыста-халодная вечнасць, ці іначай — небыццё. Але і ўдзень яго не палохала гэта.

Цяпер жа было інакш: ён прачнуўся адразу, але з нейкім як бы высілкам, і разам з думкай пра абуджэнне прыйшлі яшчэ неўсвядомленыя, востра адчутыя шкадаванне і трывога. І ён спалохаўся. Патыхнула ад акна холадам, і ён адчуў, як да непрыемнасці востра пачало ясніцца ў галаве. Яго абступілі пахі, і

зноў жа здаліся яны нясцерпна, аж да пакутлівасці, вострымі, і зноў усяго яго скаланула трывога. Пахі не адступалі, і за імі прыйшла слабасць і прыкрасць да сябе. Прыйшла, і зрабілася душна: ужо не яснілася ў галаве, нудна і слаба пачало стукаць у скроні. Ён не мог ужо так ляжаць, яму захацелася ўстаць, і, устаючы, нават узрадаваўся, што рашыўся на гэта: ён ужо ведаў, што яму трэба зрабіць.

Рэдкі шэры прыцемак, што панаваў у бакоўцы, здаўся яму імглістым і душным. Ён глянуў на акно – яно было мутнавата-сінім; лёгкія, хісткія цені струменіліся па шкле і палахліва трымцелі. Святло і цень як бы змагаліся паміж сабой, толькі нельга было разабраць, ці то змрок залягаў і ўсё глушэў за акном, ці то святло праганяла імглістую шэрань. Якая пара ночы была на двары, дзед Міхалка не ведаў. Ён толькі здагадваўся, што да раніцы яшчэ далёка.

Ён ступіў на падлогу. Яна была халодная, надта халодная, здалося яму, але так здалося толькі напачатку, нагам адразу ж стала цёпла, нават горача, і млява было пад каленямі. Ён ведаў, што гэта не ад прастуды, і таму не баяўся босы ступаць на падлогу. Пашукаў і знайшоў ля прыпечка старыя валёнкі, надзеў іх на босую нагу, знайшоў і апрануў стары свой кажух, парваны пад пахамі, і, падумаўшы, асцярожна і ціха пайшоў на тую палавіну хаты, дзе спала дачка з Іванкам. Тут ён агледзеўся. І тут панаваў шэры прыцемак, але святлейшы, чым у бакоўцы; святлей мільгаліся на вокнах цені, і было нават відно, як на двары, мутнавата паблісквaючы ў няпэўным месячным святле, самотна сеяліся, пырхалі дробныя сняжынкі.

Ля дзвярэй, на дашчанай перагародцы, ён убачыў тое, дзеля чаго прыйшоў: там вісела Іванкава світа. Ён прыгнуўся і, стаўшы на кукішкі, пачаў абмацваць у світце кішэні. Рука адчула нешта доўгае і цвёрдае – ён узрадаваўся: наган малы яшчэ не паспеў схаваць. Кішэня была дзіравая, і рукаятка нагана асела за падк-

ладку. Ён асцярожна, прытрымліваючы світку рукой, дастаў наган і, нібы баючыся некага, каб не згледзеў, прыцісснуў яго да кажуха і так, прыгнуўшыся, выйшаў. Вярнуўся ў сваю бакоўку і з патаемнай кішэні ватоўкі дастаў патрон... Не забыць бы перахаваць і яго.

На ганку яго праняла холадам, ён на імгненне заплюшчыў вочы, стараючыся адолець дрыготку, унутрана напружваючыся, супраціўляючыся холаду і прывыкаючы да яго. Цела паступова расслаблялася, скразнякі аціхалі пад поламі кажуха, холад пачынаў прыемна студзіць грудзі. Праходзіла млявасць. Вострыя, здаровы марозны пах кружыў галаву. Скакалі, вяяліся, мутнавата выбліскалі перад вачамі сняжынкі, і яму пачулася раптам, як моцна, па-роднаму блізка і цёпла запахла саломай. Танчэй і казытлівей пахла мякінай, свежа і густа чуўся пах гліны, пах прамерзлага току: ён бачыў яго выразна, карычнева-цёмны, загладжаны ток, прыбіты цапамі і пранікамі, увесь у лусачках-ямачках, што пакінула пасля сябе духмянае, цвёрдае зерне. Ён ведаў, што ўсё гэта толькі здавалася яму: пахі неадчэпна і востра мроіліся яму апошні час.

Ён зірнуў на неба. Дробныя шэрыя хмаркі беглі па ім, з-пад хмарак выслізгваўся, гойдаўся, бы на хвалях, жаўтлявы месяц. Па дахах, па гурбах нячутна снавалі цені, залягалі то празрысцей, то глушэй, і калі ўсё наўкол глушэла, сцішвалася, таямнічым, прывідным рабілася месячнае святло – было вусцішна.

Была ноч, і ён сярод ночы, перад ноччу быў адзін.

Зноў выбліснуў месяц і расхінулася далеч. Заіскрыліся, пасвятлелі гурбы, прывідна-светлая палоска пацягнулася праз поле ў лес, над якім імглiста, сутонліва зыбалася неба. Нешта нараджалася і не магло нарадзіцца там; здавалася, адтуль ішлі ўсе цені, здавалася, месяц выводзіў іх адтуль. І зноў пачало глушэць, пачала сціскацца і ападаць далеч. З-пад лесу ішоў цень, і яшчэ нехта ці нешта ішло за ім. Дзеду

Міхалку зрабілася цяжка дыхаць. Рука адчула, успомніла пра Іванкаў наган. Ён падняў яго над галавой, размахнуўся і далёка кінуў за плот у гурбу...

Ён стаяў і чакаў. Змрок насоўваўся на дахі, на гурбы, засцілаў сабой поле. У галаве ў дзеда Міхалкі шумела, і больш за ўсё яго не так палохаў, як раздражняў, здаваўся нясцерпна прыкрым гэты шум — ён перашкаджаў засяродзіцца, сабрацца з думкамі ці, можа, нават з адной, апошняй думкай, а яна ж павінна была, абавязкова павінна была быць і самай галоўнай і самай патрэбнай яму...

Невядома праз колькі часу пачало віднець, і ён схамянуўся. На сінюю прагаліну ў хмарах выплываў месяц. Роўна і светла ахінала наваколле цішыня. Пад блакітнай смугой тонка празрысцелі гурбы.

Страху не было. Ён ведаў, сёння ці заўтра — гэтага не мінеш.

## 11

Ноч. Ноч. Ноч.

Над вёскай, над усім светам стаіць ноч. Спіць бабуля, спіць Іванкава маці. Спіць Іванка. Ніхто не ведае, што сніцца яму. Пад ложкам, абкручаныя аборамі, ляжаць новыя чуні. Прачнецца заўтра Іванка, і першая ягоная думка будзе пра іх. Узрадуецца тады Іванка. Добра заўтра будзе Іванку. Добра будзе яму.

Ну, то няхай!..

1. Пра які час расказваецца ў аповесці?

2. Хто, на вашу думку, з'яўляецца галоўным героем твора? Дайце характарыстыку гэтага героя.

3. Хто з герояў аповесці вам спадабаўся? Чаму?

4. У пачатку аповесці гаворыцца, што больш за ўсіх Іванку крыўдзіў Аўдулін Паўлік, па вясковай мянушцы Цяўлік. Як вы самі ўспрымаеце гэтага хлопца? Але перш чым адказаць на пытанне, прачытайце, што расказваецца пра яго ў шостым раздзеле.